



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (1132) ГОД XXII БЕЛАСТОК 6 ЛІСТАПАДА 1977 г. ЦАНА 60 гр.


## З рэпарцёрскіх запісак

Калі паназіраць за святкаваннем 60-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў нашай краіне, няўмольна прыпамінаюцца палымяныя радкі з верша Уладзіслава Бранеўскага:

*Кланяюся рускай рэвалюцыі*
*шапкай да самай зямлі,*
*па-польску:*
*савецкай справе,*
*справе людскай,*
*рабочым, сялянам і войску.*

* ✻ *

І сапраўды, кланяемся мы гэтай рэвалюцыі ўсе разам і кожны з нас паасобку. На заклік Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі аб святкаванні 60-ай гадавіны Кастрычніка зараз жа адгукнуліся рабочыя калектывы прадпрыемстваў і ўстаноў Беласточчыны. У Ваяводскай радзе прафсаюзаў у Беластоку даведаўся я, што ў выніку шырока разгорнутага спаборніцтва за дастойную сустрэчу гэтай знамянальнай гадавіны рабочыя калектывы Беластоцкага ваяводства далі дзяржаве **дадатковую прадукцыю на звыш паўмільярда злотых.** Была гэта перш за ўсё прадукцыя рынковая. Яна дазволіла больш поўна забяспечыць патрэбы насельніцтва.

# ПАКЛОН КАСТРЫЧНІКУ

Затым на Беласточчыне, як і ў цэлай краіне, шырокае прызнанне заваявала яшчэ адна форма спаборніцтва ў гонар 60 гадавіны Кастрычніка. Звыш 70 рабочых і сялянскіх калектываў Беластоцкага ваяводства прыступіла да **Кастрычніцкага пачыну,** у рамках якога знаходзяцца перш за ўсё прадукцыйныя абавязацельствы, а ў тым ліку звышпланавая пастаўка тавараў на ўнутраны рынак і на экспарт, пашырэнне шматлікіх паслуг для насельніцтва, датэрміновая пабудова сямі аб'ектаў і грамадскія чыны на звыш 2 мільёны злотых.

* ✻ *

Прыклады.

Рабочы калектыў птушкагадоўчага прадпрыемства ў Беластоку рашыў, што да канца гэтага года купіць ад сваіх пастаўшчыкоў дадаткова 500 тон куранят, дзякуючы чаму атрымаем мы 347 тон курынага мяса.

Чатыры малачарні, аб'яднаныя ў ваяводскай малочнай спулдзельні, рашылі паставіць у продаж звыш плана вялікую колькасць малака, масла і сыра.

Бельскі ПГР, а таксама Бельская спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў абавязаліся адкарміць дадатковую колькасць свіней і яловак.

Рабочыя дзяржаўнай сельскай гаспадаркі ў Крынках у рамках Кастрычніцкага пачыну шмат папрацавалі пры ачыстцы палёў ад каменняў.

* ✻ *

Варта адзначыць яшчэ адну форму святкавання 60 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вось на многіх прадпрыемствах, у магазінах і пры фабрычных станках паявіліся эмблемы:

*Калектыў спаборнічае за ганаровае званне „Брыгада імя 60-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі".*

У гэтым спаборніцтве прымае ўдзел звыш 2500 чалавек, згуртаваных у 250 брыгадах.

(Працяг на стар. 4)



Мікалай Норка — Легенда аб рэвалюцыі (інкрустацыя).



# ПЕРАМОЖНЫ ПАХОД

**Калі шэсцьдзесят год таму назад апранутыя ў салдацкія шынелі рабочыя і сяляне пайшлі на штурм сядзібы буржуазнага ўраду — Зімовага палаца, яны адкрывалі цалкам новую эпоху ў гісторыі чалавецтва.**

**У выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі паўстаў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — першая на зямной кулі магутная дзяржава працоўных, якая стала натхняючым прыкладам і надзейнай апорай усіх прагрэсіўных сіл на свеце ў іх барацьбе супраць цемрашальства, адсталасці і агрэсіі. З яе вобразам у сэрцы баставалі рабочыя ў Злучаных Штатах Амерыкі, ішлі ў атаку байцы інтэрнацыянальных брыгад у Іспаніі, змагаліся за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўныя былой Заходняй Беларусі. А калі над чалавецтвам навісла смяротная пагроза ад нямецкага фашызму, на Краіну Саветаў выпала рашаючая роля ў барацьбе з ім. Мільёны савецкіх людзей аддало сваё жыццё за вызваленне сваіх зямель, нашага краю і іншых краін.**

**Перамога спрыяла разгортванню рэвалюцыйнага руху на свеце, садзейнічала поспеху сацыялістычных рэвалюцый у шэрагу краін Еўропы і Азіі, прывяла да стварэння сусветнай сістэмы сацыялізму.**

**Польскі народ двойчы адбудаваў сваю незалежнасць дзякуючы ажыццяўленню ідэй Вялікага Кастрычніка. Першы раз у выніку Дэкрэта Савета Народных Камісараў Савецкай Расіі ад 29 жніўня 1918 года аб праве польскага народа на незалежнасць, які быў прыняты па ініцыятыве правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі У. І. Леніна. Але тады ўладу ў маладой польскай дзяржаве захапілі буржуазія і памешчыкі, якія за дваццаць год свайго панавання давялі краіну да ўпадку. Другі раз польская дзяржава адрадзілася па ходу вызвалення Савецкай Арміяй і Людовым Войскам Польскім яе зямель у часе апошняй вайны. На гэты раз далейшы лёс краю ўпэўнена ўзялі ў свае рукі працоўныя і пад кіраўніцтвам марксісцка-ленінскай партыі ажыццявілі карэнныя сацыялістычныя пераўтварэнні ў гаспадарцы і жыцці народа, пабудавалі цалкам новую дзяржаву, гарантавалі яе поўную бяспеку і, абапіраючыся на ўласныя сілы і непарушны саюз з СССР і іншымі сацыялістычнымі краінамі, заваявалі для Народнай Польшчы выдатнае месца сярод перадавых краін свету.**

**Вялікі Кастрычнік упершыню даў беларусам права звацца народам і стаць роўнымі сярод роўных. Паўстаўшая 1 студзеня 1919 года дзякуючы ініцыятыве Камуністычнай партыі Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка з'яўляецца ў гісторыі першай і адзінай дзяржавай беларускага народа. У дружнай сям'і народаў магутнага Савецкага Саюза беларускі народ стаў паўнаўладным гаспадаром свайго лёсу. Сённяшняя Беларусь — гэта край магутнай прамысловасці, перадавой сельскай гаспадаркі, буйна развіваючыхся асветы, навукі і культуры.**

(Працяг на стар. 4)

# СУВЯЗІ КАРЫСНЫЯ І ПЛЁННЫЯ

У 1956 годзе была створана першая ў 1000-гадовай гісторыі Польшчы Кафедра беларускай філалогіі. Была яна створана ў адной з найслаўнейшых польскіх вышэйшых устаноў — Варшаўскім універсітэце. Арганізуючы беларускую філалогію, польская народная дзяржава старалася стварыць усебаковыя магчымасці інтэлектуальнага развіцця беларускай моладзі. Здаючы сабе справу з недахопу педагагічных беларусістычных кадраў, Міністэрства вышэйшай адукацыі звярнулася з просьбай да БССР прысланць у Варшаву беларускіх спецыялістаў па літаратуразнаўству і мовазнаўству, якія вялі б лекцыі для студэнтаў Кафедры беларускай філалогіі і прыспасаблівалі б да дыдактычнай працы маладых польскіх беларусаў. БССР задаволіла просьбу Народнай Польшчы і прыслала ў Варшаву навуковага супрацоўніка Акадэміі навук БССР моваведа Мікалая Бірылу і навуковага супрацоўніка педагагічнага інстытута ў Мінску Васіля Тарасава. Праз два гады змянілі іх у Варшаве наступная пара беларускіх вучоных: навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР мовавед Аркадзь Жураўскі і навуковы супрацоўнік Педагагічнага інстытута Міхась Лазарук. Усе названыя беларускія вучоныя на працягу чатырох год вялі лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры і беларускаму мовазнаўству не толькі для студэнтаў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, але і для слухачоў Настаўніцкай завочнай студыі ў Беластоку. Апрача лекцый для студэнтаў беларускія вучоныя аказалі бясцэнную дапамогу ўсім асістэнтам і аспірантам кафедры беларускай філалогіі. Апрача гэтага, савецкія выкладчыкі цікавіліся беларускім літаратурным рухам у Польшчы, прымалі ўдзел у семінарах літаратурнага аб'яднання пры „Ніве", аналізавалі з мастацкага і моўнага боку творы, змешчаныя ў „Ніве", беларускіх календарах і першых зборніках.

Дацэнт Бірыла супольна з першым кіраўніком кафедры беларускай філалогіі прафесарам А. Абрэмбскай-Яблонскай падрыхтаваў і выдаў польска-беларускі слоўнік.

Апрача названых савецкіх беларускіх выкладчыкаў на карацейшыя тэрміны прыязджалі ў Польшчу многія іншыя савецкія вучоныя. Пабывалі ў Варшаўскім універсітэце або ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку Ларчанка, Абецэдарскі, Гілевіч, Шуба, Шакун, Александровіч. У Варшаўскім універсітэце чыталі лекцыі Мальдзіс, Лойка, Казбярук, Цыхун. У апошнія гады Кафедра беларускай філалогіі атрымала магчымасць непасрэдна запрашаць навуковых супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта кожны год. Мэта гэтых візітаў заключаецца ў тым, каб выдатныя беларускія вучоныя маглі чытаць

(Працяг на стар. 4)



Першая ў 1000-гадовай гісторыі Польшчы Кафедра беларускай філалогіі была створана ў Варшаўскім універсітэце.




# Новая Канстытуцыя СССР

Сёмага кастрычніка 1977 года Вярхоўны Савет СССР, пасля амаль чатырохмесячнага ўсенароднага абмеркавання, прыняў новую Канстытуцыю Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Канстытуцыя ёсць плён шматгадовай напружанай работы вялікага калектыву людзей. У распрацоўцы праекта прынялі ўдзел вопытныя работнікі, прадстаўнікі рабочага класа, калгаснага сялянства, народнай інтэлігенцыі. Праект двойчы разглядаўся на Пленумах ЦК КПСС.

У абмеркаванні праекта Канстытуцыі прымала ўдзел звыш ста сарака мільёнаў чалавек, што складае больш чатырох пятых дарослага насельніцтва СССР. Яны ўнеслі каля чатырохсот тысяч прапаноў аб папраўках да асобных артыкулаў. У Савецкім Саюзе пабудавана развітое сацыялістычнае грамадства. Адбыліся буйныя прынцыповыя змены ва ўсіх сферах жыцця. Створана магутная эканоміка, якая заснавана на непадзельна пануючай сацыялістычнай уласнасці. Народная гаспадарка з'яўляецца паспяхова дзеючым адзіным, магутным арганізмам, які развіваецца на аснове спалучэння дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі з перавагамі сацыялізму.

Істотна змянілася сацыяльнае аблічча грамадства. Савецкі рабочы клас сёння — гэта дзесяткі мільёнаў адукаваных, тэхнічна пісьменных, палітычна сталых людзей. Іх праца ўсё больш набліжаецца да працы інжынерна-тэхнічных работнікаў. У выніку высокага палітычнага і агульнакультурнага ўзроўню ўзрасла грамадская актыўнасць рабочых, іх савецкі рабочы клас сёння складае дзве трэці насельніцтва краіны.

Сучасны калгаснік нарадзіўся і вырас у калгасе, яго псіхалогія сфарміравалася ўжо на сацыялістычнай аснове. Ён працуе ў калектыўнай гаспадарцы, аснашчанай сучаснай тэхнікай. Па свайму адукацыйнаму ўзроўню, спосабу жыцця калгаснік паступова набліжаецца да рабочага.

За гады Савецкай улады сапраўды народнай, сацыялістычнай стала інтэлігенцыя. Павышэнне ўзроўню культуры народа і імклівае ўзрастанне ролі навукі ў камуністычным будаўніцтве абумовілі рост удзельнай вагі інтэлігенцыі ў жыцці грамадства.

У працэсе будаўніцтва сацыялістычнага грамадства побач з юрыдычнай забяспечана і фактычная роўнасць нацый. Усе савецкія рэспублікі дасягнулі высокага ўзроўню развіцця. Эканоміка кожнай з іх з'яўляецца арганічнай часткай адзінага народнагаспадарчага комплексу.

У ходзе будаўніцтва і далейшага ўдасканальвання сталага сацыялізму паступова сціраюцца адрозненні паміж асноўнымі сацыяльнымі групамі. Усё больш збліжаюцца ўсе нацыі і народнасці краіны. Склалася **новая гістарычная агульнасць людзей — савецкі народ.** Яго трывалай асновай з'яўляецца моцны непарушны саюз рабочага класа, калгаснага сялянства і народнай інтэлігенцыі пры вядучай ролі рабочага класа.

У новай Канстытуцыі адлюстраваны вялікія перамогі сацыялізму, зафіксаваны не толькі агульныя прынцыпы сацыялістычнага ладу, якія выражаюць класавую сутнасць савецкай дзяржавы, але таксама асноўныя рысы развітога сацыялістычнага грамадства, яго палітычнай арганізацыі. Адлюстраваны таксама прынцыпы кіраўніцтва народнай гаспадаркай, роля дзяржавы ў духоўным жыцці грамадства, далейшае развіццё сацыялістычнай дэмакратыі.

Новая Канстытуцыя абагульняе ўвесь канстытуцыйны вопыт Савецкай краіны, абагачае яго новым зместам, які адпавядае патрабаванням сучаснай эпохі.



Соф'я Панкова. Здымак з 1930 года.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# Новае пра Соф'ю Панкову

Чытачам „Нівы", якія цікавяцца гісторыяй, прозвішча Соф'і Панковай (яна была прадстаўніцай камуністаў Беласточчыны на І з'ездзе Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў 1928 годзе), бадай што, не з'яўляецца чужым. Пра яе вядома, што ў 1930-1932 гадах разам з В. Харужай адседжвала прысуд у турме ў Фардоне, у 1940 г. дзейнічала ў Беластоку і ў 1942 г. абедзве сяброўкі — Соф'я Панкова і Вера Харужая — разам загінулі ў барацьбе супраць гітлераўскага акупанта.

Нядаўна ў судовых актах С. Панковай знойдзены дакументы, якія адносяцца да месяца лістапада 1936 года. З іх вынікае, што яна разам з іншымі камуністамі дзейнічала на Беласточчыне, была ў 1935 г. членам Беластоцкага акруговага камітэта КПЗБ і па прысуду Акруговага суда была асуджана за камуністычную дзейнасць на наступныя 12 год цяжкай турмы і 10 год пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Соф'я Панкова была тады адной з нямногіх дзеячоў цэнтральнага апарата КПЗБ, якія вялі работу непасрэдна ў сялянскім асяроддзі. Яе судовыя акты прадстаўляюць сабой цікавую крыніцу звестак пра абсяг дзейнасці Беластоцкага акруговага камітэта КПЗБ у той час.

Такую суровую меру пакарання Апеляцыйны суд матываваў тым, што гэта быў яе другі працэс і ў сувязі з тым, што яна ў часе следства праяўляла „высокі партыйны ўзровень". Пакаранне яна адседжвала пад прозвішчам **Антаніны Карловіч** ці Мар'і Заблоцкай. На прозвішча **„Карловіч"** захаваўся яе збор турэмных дакументаў з Фардона, а сярод іх невядомы дагэтуль здымак з 1930 года і шэраг цікавых дакументаў: лісты да яе ад сям'і мужа і яе лісты да сям'і, а таксама супольны ліст ад **9 мая 1932 года яе і Веры Харужай да яе блізкага сябра Сямёна Кемрада.** Напісаны па-беларуску ліст Веры Харужай быў перапісаны рукой Соф'і Панковай. Аднак ён да адрасата не дайшоў, таму што яго затрымала адміністрацыя турмы (цяпер толькі дойдзе, пасля 45 год!) і адправіла „пад сукно". У гэтым лісце, між іншым, чытаем (падаем па цяперашняму правапісу):

„Каханы, родны мой хлопча!

Выбралася, нарэшце, і я да цябе ў госці. Праўду кажучы, не зусім яшчэ пакуль што „выбралася"... Вось пачала пісаць, і неяк добра робіцца на „душы", радасна на сэрцы. Нягледзячы на тое, што на дварэ лье дождж, як з вядра, дождж халодны, мокры (!), які пранізвае да костачак. Але што нам, малярам! Сядзім сабе, не турбуемся, што нас замочыць. Полап моцны... У маі павінна быць усё маёвае, а тут: на табе!.. Бывае і такі май, што „каням сена дай, а сам на печ палязай..."

Гэта быў 1932 год. Восенню таго ж года даволі вялікая група палітычных вязняў была выменена паміж Польшчай і СССР. Сярод іх была таксама Вера Харужая. У лістападзе, ужо з Масквы, яна выслала тэлеграму Панковай у Фардон: „Мама крепко обнимает целует помнит". Як адпраўшчык тэлеграмы фігуруе той жа „Сёма" Кемрад, з якім абедзве сяброўкі перапісваліся. З гэтых дакументаў відаць, што не толькі шляхі, якімі крочылі ў сваёй дзейнасці камуністы ў міжваеннай Польшчы, былі не раз стромкія, не раз пакручастыя. Не просты таксама быў спосаб зносін паміж імі і выказвання сваіх перажыванняў.

**А. Бергман**

Фота з Цэнтральнага архіва ЦК ПАРП



Першая старонка ліста В. Харужай і С. Панковай да С. Кемрада.




**Сустрэча з Алегам Лойкам ● Хто перамог у конкурсе „Сярод сяброў" ● Апетыт на трускалкі ● Вечна жывая ● Скульптуры ў Ліпску ● Хлопцы са „Старта" ● Як шафёр ПКС-у перастараўся ● Калі прысняцца баравічкі ● Весткі з Белавежы, Дубіч Царкоўных, Чаромхі, Нараўкі, Гарадоцкай гміны ● Песня „Gdzie lepiej niż tu".**




**Sobota 5 XI** — 6.30 Tech. Rol. Upr. roślin. 7.00 Tech Rol. Hod. zwierz. (29). 9.00 Bajkowy Koncert Życzeń. 9.40 Spóźnione kwiaty — radz. film fab. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. (7). 13.25 Tech Rol. Mech. rol. (6). 13.55 Pr. dnia. 14.00 Radzimy rolnikom. 14.10 Dziennik. 14.20 Dla dzieci. 14.50 Hyperion — rum. film fant.-nauk. 16.15 Życiorys Kraju Rad. 17.00 Wszystko za wszystko z prof. dr K. Michałowskim. 18.10 Studio sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Akademia z okazji 60 rocznicy Wielkiej Socjalistycznej Rewolucji Październikowej. 22.05 Dziennik. 22.20 Jules i Jim — tragikomedia franc.

**Niedziela 6 XI** — 7.00 Tech. Rol. Hod. zwierz. (7). 7.30 Tech. Rol. Mech. rol. (6). 8.00 Nasze spotkania. 8.20 Nowocz. w domu i zagrodzie. 8.35 Studio sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Niewolnicy i lordowie — odc. III serialu ang. 11.35 Dziennik. 11.50 Rol. rozmowy. 12.20 Pr. publ. 12.45 STUDIO 2.

**Poniedziałek — 7 XI** — RTV szk. śred. Język pol. (31). 13.25 RTV szk. śred. Fizyka (26). 15.25 NURT — filozofia. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sensacje z przeszłości. 17.00 Dla dzieci. 18.05 W imieniu Rzeczypospolitej — odc. serialu TP „Stawka większa niż życie". 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. M. Pogodin „Kremlowskie Kuranty". 22.05 Koncert muzyki ros. i radz. — uroczysty koncert z okazji 60 rocznicy Wielkiej Socjalistycznej Rewolucji Październikowej. 23.05 Dziennik.

**Wtorek 8 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Język pol. (31). 7.00 RTV szk. śred. Fizyka (26). 7.30 Na tropie — IV odc. serialu TP „Polskie drogi". 9.00 Dla kl. I lic. Język pol. 10.00 Dla kl. I—III. Czerwone, żółte, zielone. 12.00 Dla kl. VIII. Historia. 12.45 RTV szk. śred. Język pol. (8). 13.25 RTV szk. śred. Chemia (9). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio TV Młodych. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motoryzac. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.20 W Starym Kinie: „Jaśnie pan szofer" — cz. I komedii polskiej. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Wybór — II odc. serialu TV ZSRR „Droga przez mękę". 21.50 Camerata. 22.20 Jojk dla komputera — dok. film polsko-szwedz. 22.50 Dziennik.

**Środa 9 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Język pol. (8). 7.00 RTV szk. śred. Chemia (9). 9.00 Dla kl. VI. Fizyka. 9.30 Wybór — II odc. serialu TV ZSRR „Droga przez mękę". 11.05 Dla kl. VIII. Historia. 12.00 Dla kl. VIII. Chemia. 12.45 RTV sz. śred. Mat. (40). 13.25 RTV szk. śred. Biologia (31). 15.25 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto czyta nie błądzi. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Los. Małego Lotka. 17.55 Gra — teleturniej. 18.40 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Chwyć za broń — dramat prod. TV greckiej. 21.55 Przed konkursem im. H. Wieniawskiego. 22.30 Alaska 76 — cz. I filmu. 22.50 Dziennik.

**Czwartek 10 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (40). 7.00 RTV szk. śred. Biologia (31). 9.00 Dla kl. VIII i I lic. Przyspos. obr. 9.30 Świerszcz za uchem — komed. bułg. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (7). 13.25 RTV szk. śred. Biologia (7). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Oto foto. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Sonda — magazyn. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Wspólnicy — odc. sensac. serialu ameryk. „Kojak". 21.30 Pegaz. 22.15 Spotkania z medycyną. 22.45 Dziennik.

**Piątek 11 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (7). 7.00 RTV szk. śred. Biologia (7). 8.30 Ostatnia noc samotności — rum. dramat. 10.00 Dla kl. IV. Tu był Lenin. 11.05 Dla kl. II. Zrobimy to sami. 12.00 Dla kl. VIII. Wychowanie obywatelskie. 12.45 Tech. Rol. Upr. roślin. 13.25 Tech. Rol. Hod. zwierz. (30). 15.25 NURT — pedagogika. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio sport. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Poradnik zmotoryz. turysty. 17.45 Wędrująca trafika — I odc. serialu czech. „Historia pewnej kamienicy". 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Pożyteczny zawód — IV odc. serialu ang. „Gwiazdy patrzą na nas". 21.30 Teatr Małych Form H. T. Czarnecki: „O nim". 23.00 Dziennik.




**Piątek 4 XI** — 7.30 Film ser. 8.45 Koncert. 9.10 Film dok. o Kijowie. 13.20 Film fab. 16.15 Balet. 17.50 Film ser. 19.00 Koncert.

**Sobota 5 XI** — 7.30 Koncert. 9.30 Film dok. o Leningradzie. 11.05 Film fab. 14.25 Koncert. 16.15 Koncert z cyklu „Antologia piosenki radzieckiej". 17.45 Film ser. 20.00 Koncert.

**Niedziela 6 XI** — 10.50 Film fab. 14.15 Koncert. 15.00 Film dok. 16.15 Koncert. 16.45 Mówią weterani rewolucji. 17.45 Film fab. 20.00 Święto piosenki.




**Białowieża** Królowa pszczół — pol. 8—9. Bracia Karamazow — radz. 10—11. Śmiałość — radz. 12—13.

**Bielsk Podlaski** Niewolnica miłości — radz. 8—9. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 10—11. Wyprawa po złoto — radz. 12—13.

**Czeremcha** Kamo znany osobiście — radz. 8—9. Kamo niebezpieczna misja — radz. 12—13.

**Czyże** Kochałem cię — radz. Dziki pies Dingo — radz. 9—13.

**Dubicze Cerkiewne** Olśnienie — pol. Sombrero — radz. 9—13.

**Gródek** Proszę o głos — radz. 12—13.

**Hajnówka** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. 8—9. Na rabunek — radz. 10—11. Anna Karenina — radz. 12—13.

**Michałowo** Biały ptak z czarnym znamieniem — radz. 8—9. Trudne godziny — radz. 10—11. Dersu Uzała — radz. 12—13.

**Mielnik** 12 krzeseł — radz. 9. Olśnienie — pol. 12—13.

**Milejczyce** Artysta do wszystkiego — radz. 8—9. Ptaki ptakom — pol. 10—11. Zdjęcie próbne — pol. 12—13.

**Narew** Czerwone ciernie — pol. Matczyne serce — radz. 9—13.

**Narewka** Cudze listy — radz. 12 krzeseł — radz. 9—13.

**Nurzec** Polonez Ogińskiego — radz. 8—9. Opowieść o komuniście — radz. 10—11. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 12—13.

**Orla** Noce i dnie — pol. 9—13.

**Rajsk** Yuriko moja miłość — radz. 9—13.

B.Z.Graf. Zam. nr 2559 B-4

 

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 226

## Сцягамі расцвіталі дрэвы

*Слаўнаму Шасцідзесяцігоддзю*
*Вялікага Кастрычніка*

*Год трыццаць сёмы,*
*сёмы лістапад,*
*Дваццацігоддзе*
*Слаўнай Перамогі.*
*Надзея*
*крочыць да сялянскіх хат,*
*Свабоды*
*нельга кінуць у астрогі.*

*Прыгнечаных усіх*
*КПЗБ*
*з абдымкаў вырывае*
*капіталу.*
*Яна у пастаяннай барацьбе,*
*Яна з магутным*
*баявым напалам.*

✲

*З начное цемры*
*выплываў прасцяг,*
*блішчэлі*
*ў срэбры інею палоскі.*
*І палымнеў на фоне неба*
*Сцяг*
*на верхавіне дрэва,*
*каля вёскі.*

*А неўзабаве*
*вестка,*
*быццам гром,*
*усё ўскалыхнула*
*наваколле:*
*лунае на бярозе,*
*за сялом,*
*Сцяг Барацьбы*
*прыгнечаных*
*за Волю.*

*Апоўдні*
*паліцэйскі гарадскі*
*па вёсцы шнырыў,*
*нюхаючы ўсюды,*
*каб выявіць*
*таго,*
*з чыёй рукі*
*Сцяг выплыў,*
*каб лунаць*
*на радасць люду.*

*І намагаўся*
*Сцяг*
*як найхутчэй*
*зняць з верхавіны*
*стройнае бярозы,*
*каб паднявольных*
*не будзіў людзей*
*і каб буржуям*
*больш не быў*
*пагрозай.*

*Прасіў дарослых,*
*клікаў хлапчукоў,*
*ніхто аднак*
*не дапамог службісту.*
*Не падкупіў*
*нат звонам медзякоў.*
*І закіпеў:*
*„Усе вы камуністы!“*

*І паліцэйскі,*
*зняўшы боты з ног,*
*сам узбіраўся*
*па ствале, галінах,*
*каб сімвал*
*Барацьбы*
*і Перамог*
*больш не лунаў*
*на дрэва верхавіне.*

*Жандар, відаць,*
*таго не ўяўляў,*
*што сцягу ўжо*
*не зняць яму ніколі.*
*У сэрцах паднявольных*
*залунаў*
*Сімвал Змагання*
*за Жыццё,*
*за Волю.*

**Віктар Швед**



**ЯН ЛЕАНЧУК**



## Чыквіна восень і неспакой




У паэзіі Яна Чыквіна наглядаем мы гэткі канон пейзажу, па сваёй сутнасці ідэальна-рамантычны, дзякуючы якому цалкам удаецца паэту апраўдаць чалавека і павесці яго ў тыя далягляды, што ўзбагачаны пазнакамі іншых культур, у шырокія магчымасцямі. Прытым трэба сказаць, што нашы вяртанні да роднай прыроды ачалавечваюць яе, пераўтвараючы ў люстра нашай жа асабовасці. (*„І час стаяў, як ракіты на лузе...“*, стар. 34.)

Час, памяць, айчыннае ў паэзіі Яна Чыквіна з'яўляюцца своеасаблівым космасам, у якім вяртанні з „горкіх вандраванняў“ служаць выкрыццю існасці таго, што хоча ён сказаць нам, па-свойму, вядома. І быццам у вяртаннях блуднага сына — Чыквінскі пейзаж здольны прабачыць і назад прыняць паэта „размяніўшага час на словы“, і страціўшага сваю, шчаслівую, Аркадыю. Вечны Хронас, здаецца, ачышчае кожнага з нас ды аднаўляе заціхлую любоў, аднаўляе яе на дарогах тых вяртанняў, хоць — як гэта не раз палохаецца паэт — *„Не выйдзем мы на сцэну ў наступным акце“*. Дарэчы будзе прыгадаць тут Эліядаўскае сцвярджэнне: апісваючы пейзаж-прыроду і чалавека, дакранаемся мы да абсалюту. Пейзаж і ў нашых адчуваннях ніколі не бываў дэсакралізаваным, пазбаўленым той містыкі, дзякуючы якой мы захоўваем у сабе здольнасці да пачуццяў.

Чыквін не прызнае веры ў „другі бераг“. Атоесамліваецца ён з веліччу прыроды, што з'яўляецца таксама вынікам пастаяннага супастаўлення яе з біялагічнай мізэрнасцю чалавечага лёсу. (*„Адно жыццё на ўсё жыццё — як гэтага нямнога!“*, стар. 19.)

Хочацца сказаць — пантэізм, які быў так відавочны ў папярэдніх зборніках твораў Чыквіна, у томе **„Неспакой“***) прагучаў з новай, як жа непаўторнай, сілай яго паэтычнага ўяўлення!

Неспакой у паэта нараджаецца ў выніку яго нага дарослага сутыкнення са сваім даўным светам дзяцінства, вяртанні да якога набылі асабліва трагічны рыс, які ўзнікае з усё мацнеючай у ім адчужанасці да радаслоўнай вёскі. І гэта ўжо вяртанні толькі на ўскрай таго луга, якога больш ніколі не пяройдзем; гэта ўжо пераходы паблізу яшчэ бачанага, аб якім, аднак, вядома нам, што колішняга нашага засталося там няшмат або і зусім няма... (*„Вязе мой слаўны, вязе вяковы, Ці шчаслівы ты ў шапцы вясковай?“*, стар. 6.)

Чыквін, з незвычайнай прэцыёзнасцю, умее рабіць пуэнту. Уважлівы чытач яго апошняй кніжкі, лічу, пагодзіцца з гэтым маім сцверджаннем. Пуэнта, як несумненная ўмова добрай паэзіі, у выпадку Чыквінскага верша выклікае нейкае дадатковае адчуванне, якое з'яўляецца, бадай, бліжэйшым да адчування намі холаду. Падабенства тут да характару французскай паэзіі, якраз, на думку многіх, халоднай — няхай застанецца, пакуль нераспрацаваным дакладней, маім высновам з вячэрняй размовы з вершамі беларускага аўтара. Над роднымі мне Лубнікамі гаслі Нікіцінскія зоркі...

Наш паэт не асеў на мялізнах сентыменталізму; яго карабель натхнення нават не крануў іх сваім днішчам. Такіх мялізнаў заўсёды шмат падчас падарожжа ў далёкія краіны маленства. Натыкаюцца на іх не адны „белавежцы“, дзеці зямлі, якая перажывае гвалтоўнае землетрасенне ад цывілізацыйных зрухаў і паводкі цунамі.

Спалучэнне пачуццяў з інтэлектам, безупынная рэвізія светапогляду, праўды аб жыцці і гістарычным мінулым — гэта захапляючыя спробы Чыквіна, чалавека вельмі неспакойных адносін да самога сябе і іншых, з „цяжкім“ характарам.

Вельмі цяжка пісаць пра творчасць выдатнага паэта, якім, несумненна, з'яўляецца Ян Чыквін. Пісаць аб ім, аб тым цудоўным, што стварыў ён, гэта тое ж, што спрабаваць коратка напісаць пра свет цэлы! Пра ягоную веліч ды ўпадак, цудоўнае ў ім ды подлае, і г.д. — Немагчыма!

У заключэнне свайго выказвання, якое прадстаўлена мне з нагоды выхаду ў свет чарговай кніжкі Чыквіна, тома паэзіі **„Неспакой“**, хочацца заўважыць, што творчасць гэтага таленавітага беларуса далучае да еўрапейскага кантэксту тую частку беларускай літаратуры, якая ўзнікла і прыгожа расце на Беласточчыне.

Трэба падкрэсліць вялікую, як на беластоцкія магчымасці друкавання, дбайнасць рэдактара **„Неспакою“** Сакрата Яновіча. Кніжка атрымала прыстойнае афармленне, прэцэдэнтнае ў дагэтуляшняй выдавецкай практыцы Беларускага таварыства. Стала гэта магчымым таксама дзякуючы супрацоўніцтву з вядомым мастаком Аляксандрам Хомчыкам, сынам, як і ўсе мы, беластоцкага пейзажу.

Апрацаваў **С. Я.**

*) Ян Чыквін, „Неспакой“, БГКТ, 1977.

## Варшаўскія пейзажы

*Лістапад расплыўся*
*Як вулканічная лава*
*Што зраўняла прастор.*
*Лістапад расплыўся*
*Зраўняў усе мае дні.*
*Дні мёртвыя*
*Дні неспакойныя*
*Дні без дзён і начэй.*
*Мёртвы мозг цяжыць*
*Трохвугольнікам змолатых каменняў*
*Пульс перастае біць...*

*Лістапад, я люблю цябе...*

* ✲ *

*Я не пярэчу*
*Ты бачыў многа:*
*Усход і захад сонца*
*І ідэальнае хараство бясконца.*
*Кранаў ты рукою*
*Гісторыю спрад тысячы гадоў.*
*Твой шлях вадзіў цябе*
*І праз каменныя пустыні*
*І праз палацы ўладароў*
*Магутных*
*І менш вядомых свету.*
*Ты бачыў ўзлёты іх, упадкі*
*Застылыя ў разьбах карцінах*
*Славутых сёння.*
*Аднак*
*Аднак ты бачыў так нямнога*
*Не бачыў ты*
*С л я з ы...*

* ✲ *

*Імкнуўся ты*
*Да новых рубяжоў*
*А дасягнуў*
*Мараў дно цёмнае*
*І вузел ланцугоў*
*І нават дно-клетка*
*Уласнае люстра*
*Не было тваім адбіткам*
*І цешылася маскай...*

*а што ж вочы чужыя?*

. . . . . . . . . . . . .

*Словы пакідалі*
*Сляды*
*А ўчынкі*
*Раны...*

. . . . . . . . . . . .

*Маўчанне*
*У косці ўрасло*
*А рука*
*Не зьлепіць з неспакойных*
*каменняў*
*Дарогі*

. . . . . . . . . .

*Імкнуўся ты*
*Да новых рубяжоў*
*а жыццё*
*працякала*
*побач...*

* ✲ *

*Ты прызвычаіўся*
*Да шэрага неба*
*Да спеву халоднага ветру*
*Да слядоў на пяску.*
*Палюбіў ты нават*
*Патрэсканую прыстань*
*Пару кніжак (часам забываеш іх*
*загалоўкі)*
*І нерухомы заржавелы гадзіннік.*
*Ноччу*
*Калі цені вандруюць вуліцамі*
*Ты маўчыш са сваім ценем*
*Палюбіў ты ў гэтым горадзе*
*Дажджы*
*Абшары мокрых дахаў*
*Лабірынты вуліц і вулічак...*
*Ты прызвычаіўся*
*Да шэрага неба*
*Да шэрага горада*
*Ты прызвычаіўся тут нават*
*Да сваёй смерці...*

* ✲ *

*Мы пойдзем*
*Далей...*
*Перад намі*
*Падарожжа-акіян...*
*У сэрцах нашых*
*Даспее родны след...*
*Дарога*
*Толькі нашая...*
*Вясна і восень*
*Працягнуць сабе рукі...*
*А слова*
*(што знае сваё месца)*
*само ўцячэ*

. . . . . . . . . . . .

*Не будзе*
*сноў*
*ветраў*
*і хмар...*
*А зямля*
*Блакітным шарам стане...*

**Надзея Артымовіч**

 

(Працяг са стар. 1)

# СУВЯЗІ КАРЫСНЫЯ І ПЛЁННЫЯ

лекцыі для студэнтаў нашай філалогіі. У мінулым годзе прыязджаў у Варшаву Бурак, зусім нядаўна пабываў Лойка, а на наступны год запрошаны Шакун. Таксама і ў наступныя гады мы будзем запрашаць беларускіх мовазнаўцаў і літаратуразнаўцаў.

Асобнай з'явай у нашых сувязях з БССР з'яўляюцца выезды навуковых супрацоўнікаў кафедры беларускай філалогіі ў Мінск. Пачынаючы 1957 годам, а канчаючы сённяшнім днём, такія супрацоўнікі кафедры, як Л. Базылюк, А. Багроўская, М. Врублеўскі, Э. Смулкова, А. Баршчэўскі па некалькі разоў ездзілі ў Мінск на кароткія або многамесячныя навуковыя стажыроўкі. Сабраны ў Мінскіх бібліятэках і архівах матэрыял і кансультацыі з беларускімі вучонымі дапамаглі многім з нас напісаць кандыдацкія дысертацыі або падрыхтаваць да друку публікацыі. Супрацоўніцтва ў гэтай галіне прадаўжаецца да сёння. У апошніх трох гадах асістэнт кафедры Я. Глушкоўская вучылася ў Мінску ў аспірантуры і 22 лістапада бягучага года будзе абараняць кандыдацкую дысертацыю, а старшы асістэнт кафедры З. Скібінская вучыцца ў Мінску ў завочнай аспірантуры. Тэрмін яе абароны вызначаны на 1978 год.

У сваю чаргу таксама малодшыя навуковыя супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Акадэміі навук БССР не раз прыязджалі на многамесячныя стажыроўкі ў Варшаву. Пабывалі ў нас Саламевіч і Вярэніч. Першы з іх збіраў у Польшчы матэрыял для выдадзенай ўжо кнігі аб жыцці і дзейнасці Міхала Федароўскага, другі збіраў матэрыял для кандыдацкай дысертацыі па дыялектах.

Па-за сціслa навуковым аспектам нашы выезды ў БССР **і прыезды савецкіх** даследчыкаў у Польшчу спрыялі асабістым сувязям, сімпатыям і прыязням.

Да цікавых форм супрацоўніцтва належаў таксама абмен студэнцкімі групамі ў часе летніх канікул. Нашы студэнты па-за лекцыямі, прысвечанымі беларускай мове, літаратуры, культуры і гісторыі, знаёміліся таксама з Мінскам, яго ваколіцамі, радзімамі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Нарaччу, Свіцяззю і гэтак далей. У сваю чаргу студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта слухалі ў Варшаве лекцыі, прысвечаныя розным галінам польскай культуры і літаратуры, наведалі шматлікія польскія музеі, выязджалі ў Кракаў і Закапанэ.

Гаворачы аб нашым супрацоўніцтве, нельга не сказаць таксама аб тым, што супрацоўнік кафедры Э. Смулкова разам з калектывам мовазнаўцаў рыхтуе для Акадэміі навук БССР абшырныя матэрыялы па дыялекталогіі Беласточчыны.

У рамках ідэі супрацоўніцтва змяшчаецца таксама абмен кнігамі і часопісамі. Кафедра беларускай філалогіі атрымоўвала і атрымоўвае з Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Мінску і з Белоксу даволі вялікую колькасць літаратурных перыёдыкаў, навуковых часопісаў і навінак з мастацкай літаратуры. Усе гэтыя выданні маюць аграмаднае значэнне ў дыдактычным і выхаваўчым працэсе нашых студэнтаў.

Гледзячы на кафедру беларускай філалогіі з перспектывы яе дваццацігадовага існавання, нельга не заўважыць, што яе правідловае функцыянаванне было б немагчымым без той канкрэтнай дапамогі, якую аказала БССР у першыя чатыры гады нашай дзейнасці і без тых разнародных форм супрацоўніцтва, якія выступаюць да сённяшняга дня.

Выяўляючы поўнае задавальненне з дасягнутага дагэтуль, хацелася б пажадаць пашырэння і паглыблення супрацоўніцтва і сувязей у будучым.

**А. Баршчэўскі**

## У Міхалове

Насупраць ГС-аўскага рэстарана ў Міхалове стаіць кіёск, у якім паводле надпісу павінны прадавацца напіткі і кандытарскія вырабы. Ды гэты надпіс толькі ў блуд усіх зводзіць. Падышоў я да кіёска і што бачу: у ім перахоўваецца... туалетная папера. Вось, думаю, прыбіральшчыкі туалета ў рэстаране маюць выгаду. Па паперу — што рукой падаць.

Па вул. Беластоцкай убачыў я забытую ўсімі краму, у якой (пакуль маю гэта яшчэ ў памяці), раней прадаваліся прадукты першай патрэбнасці. Яе закрылі тады, калі была аддадзена ў карыстанне вялікая спажывецкая крама па вул. Гарадоцкай. Цікава было б ведаць, на што ГС выкарыстоўвае зараз гэты будынак. Можа таксама на перахоўванне туалетнай паперы?

**ЦЁМНА НА ВУЛІЦЫ**

У Міхалове перагарэлі многія лямпачкі вулічнага асвятлення. Цяпер восеньскія дні кароткія. З-за няспраўнага асвятлення на вуліцах цёмна. Нават у цэнтры мястэчка на вул. Беластоцкай. Варта, каб гэтым зацікавіліся міхалоўскія электраманцёры. А то, ідучы неасветленай вуліцай, лёгка нагу можна скруціць, у лужыну плюхнуцца або на плот-загарадку ля будынка гміннай управы (загароджана, бо ідзе рамонт будынка) напароцца.

**Разведка гаспадарнасці**

**КЛУБ ПАД ЗАМКОМ**

Давай, кажа мой сябра, зойдзем ды вып'ем каву. Вечарам не было чаго рабіць, дык мы зайшлі ў гмінны цэнтр культуры ў Міхалове. Тут ёсць клуб прэсы і кніжкі „Рух". Але не выпілі мы кавы. Было гэта 11 кастрычніка гэтага года (аўторак). Клуб быў глуха-наглуха закрыты. Ніякай аб'явы. Ды й ніхто не ведаў, чаму. Усе трацілі дарма час. Адзін з тутэйшых наведвальнікаў клуба сказаў нам, што ў ГОК-у замерла культурная дзейнасць.

**Іван Непаседа**

# КУЛЬТУРНА — АСВЕТНЫ ГОД 1977-78

15 кастрычніка ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбылося ўрачыстае адкрыццё культурна-асветнага года ў Беларускім таварыстве. Сабралася шмат людзей, у асноўным гэта былі тыя, што бяруць непасрэдны ўдзел у дзейнасці БГКТ: з горада Беластока, з паасобных гурткоў БГКТ, у тым ліку з Гданьска. Прыбылі таксама прадстаўнікі некаторых устаноў, з якімі супрацоўнічае наша арганізацыя: з Ваяводскага дома культуры, прадпрыемства „Прэса-Кніга-Рух", з Ваяводскага праўлення пажарнай каманды, а таксама з Гміннага ўпраўлення ў Бельску і з гуртка вясковых гаспадынь у Арэшкаве (гміна Гайнаўка).

Старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік у абшырным выступленні расказаў аб формах дзейнасці Беларускага таварыства, аб самаахвярнасці людзей з аматарскіх калектываў, якія падрыхтоўваюць рэпертуар на беларускай мове, аб дапамозе гэтым калектывам з боку паасобных устаноў, аб напрамках культурнай працы ў бягучым годзе, якая ўжо і да гэтага часу праводзілася і далей будзе працягвацца пад лозунгам 60 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Арганізоўвалася і далей будзе арганізоўвацца шмат дакладаў, сустрэч, вечароў, конкурсаў, фэстынаў, выступленняў самадзейных калектываў і т.д. пры дапамозе мясцовых улад, арганізацый і устаноў, якія вельмі часта аказваюць БГКТ не толькі маральную і арганізацыйную падтрымку, але таксама і фінансавую. Таварыш Самоцік сказаў аб усіх арганізацыях і ўстановах, з якімі супрацоўнічае БГКТ, і ад імя Галоўнага праўлення БГКТ сардэчна ім падзякаваў.

Пасля распачалася вечарына з песнямі беластоцкіх „Каласкоў" і іншых удзельнікаў урачыстасці.

**Міхась Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 1)




**Паміж народамі сацыялістычных краін, дзякуючы ператварэнню ў жыццё прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі, склаліся зусім новыя адносіны, заснаваныя на ўзаемнай пашане і раўнапраўі.**

**„Глыбокі гуманізм ідэалаў сацыялізму садзейнічае росквіту культуры кожнага з нашых народаў, — піша I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк у артыкуле, змешчаным у газеце „Правда" ад 30 верасня 1977 года. Абшырны сістэматычны абмен і супрацоўніцтва ў гэтай галіне ўзаемна іх набліжаюць, паглыбляюць давер, дазваляюць лепш пазнаёміцца з творчым укладам кожнага народа ў развіцці цывілізацыі і культуры чалавецтва. Сацыялізм, уздымаючы ролю працы як галоўнай крыніцы ўсіх каштоўнасцей, увёў у міжнародную практыку новыя формы набліжэння паміж народамі — сувязі паміж працоўнымі калектывамі, творчымі і спецыялізаванымі саюзамі, маладзёжнымі арганізацыямі, грамадскасцю гарадоў, вобласцей. Разгортваецца і ўзбагачаецца супрацоўніцтва прыгранічных раёнаў. Дзякуючы гэтаму сацыялізм і ў гэтай дзялянцы выяўляе творчую сілу інтэрнацыяналізму".**

**Гэтыя словы адносяцца і да нас, беларусаў Беласточчыны. Ва ўмовах сацыялістычнай Польшчы мы можам свабодна працягваць нашы традыцыі прагрэсіўнага грамадскага руху, развіваць асвету на роднай мове, пашыраць нашу культурную дзейнасць, уносячы такім чынам наш пасільны ўклад у шматграннае культурнае жыццё краіны і садзейнічаючы паглыбленню і ўмацаванню брацкай польска-савецкай дружбы. Бо шляхі пераможных ідэй Вялікага Кастрычніка вядуць не толькі па ўсіх кантынентах свету, але і па самых непрыкметных яго куточках, несучы ўсюды жыццесцвярджальныя і апладатвараючыя пераўтварэнні.**

(Працяг са стар. 1)

# ПАКЛОН КАСТРЫЧНІКУ

* ❊ *

І зноў можна было б прыводзіць доўгі пералік: дзе-хто-як-колькі. Замест гэтага прапаную наведаць Фастоўскі тэкстыльны камбінат. Ён узнік дзякуючы дапамозе савецкіх сяброў, і пачуцці ўзаемнай дружбы глыбока тут ужо закараніліся. Рабочых, якія прыходзяць на працу, у Фастах вітае вялікі сімвалічны плакат з двума словамі:

**PRZYJAŹŃ — ДРУЖБА**

А Ян Брулінскі — намеснік старшыні прафсаюзнай рады камбіната, ды заадно і старшыня завадскога гуртка Таварыства польска-савецкай дружбы, гаворыць мне, што калектыў прадпрыемства святкаванне Кастрычніцкай гадавіны распачаў яшчэ ў красавіку. Тады на камбінаце наладзілі **Дні савецкай тэхнікі**, былі выстаўкі, сустрэчы, урачыстыя вечарыны. Зараз аж 139 брыгад спаборнічае ў Фастах за ганаровае званне **„Брыгады імя 60-годдзя..."**

* ❊ *

Яшчэ наведаў я сядзібу ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы. Працаўнікі гэтай установы гаварылі мне, што ніколі дагэтуль не мелі столькі працы, як цяпер. І сапраўды, дзверы ў ваяводскае праўленне ТППР проста не зачыняюцца. Людзі ідуць і ідуць, а кожны просіць якіх-колечы матэрыялаў, прысвечаных 60-годдзю Кастрычніка, метадычнай дапамогі ў наладжванні розных урачыстых вечароў і пасяджэнняў. Прыходзяць настаўнікі і вучні, прадстаўнікі рабочых і сялянскіх калектываў.

**Наш паклон Кастрычніку гэта перш за ўсё выяўленне вернасці тым вялікім і несмяротным ідэям, якія дазволілі нам „людзьмі звацца", працаваць у сябе і для сябе, дзеля ўласнага і агульнага дабрабыту.**

**Віктар Рудчык**



# ПЕРАПОНКА

На будове Семяноўскага вадасховішча многа чаго з рамантыкі першапраходцаў: і пустое навокал поле, і перасоўныя домікі-вагончыкі на высокіх колах, і коўзкая гліна з рыхлым пяском, што нават у сонечную пагоду ў гумавых ботах ледзь пералезеш, і звілістыя берагі ракі Нарвы, якую трэба затрымаць моцнай плацінай.

Над узвядзеннем плаціны ўжо некалькі месяцаў працуюць магутныя скрэперы і самазвалы Беластоцкага меліярацыйнага прадпрыемства. Яна павольі, але безупынна, сантыметр за сантыметрам, падымаецца ўвысь. Аднак працы вядуцца не толькі над зямлёю.

Неабходна таксама трывала перагарадзіць і тую невідочную для вока падземную плынь, што адвечна імкнецца рачною далінай уніз, аж у далёкую Балтыку. Калі яе не спыніць, па-першае, увесь час будзе траціцца значная колькасць вады са сховішча, па-другое, падземная рака з бегам гадоў падмые збудаваную на паверхні зямлі плаціну і тая абваліцца. Але будаваць падземную частку плаціны — справа вельмі скамплікаваная, патрабуючая спецыялістаў і адпаведных машын.

На надрэчным пагорку, каля дарогі з Бандароў у Луку, віднее дошка з выпаленым надпісам „Энергаполь-7". Так, гэта этыкетка таго самага прадпрыемства,



